STOWARZYSZENIE MUZEUM ... KULTURY BIAŁORUSKIEJ
w HAJNÓWCE
17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 11 (2413) 16 сакавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.



"Паэтамі не выбіраюцца, не прызначаюцца і не зацвярджаюцца -- імі нараджаюцца па Божай міласці і каранаюцца народнай любоўю", -- так сказаў Паэт пра Па... -- Генадзь БУРАЎКІН пра Рыгора БАРАДУЛІНА, яко... ы бачыце на здымку.

*(Нататкі пра Р.БАРАДУЛІНА і яго вершы змешчаны на 6-й стар.).*

ПРАВАСЛАЎНЫ ЦЭНТР МІЛАСЭРНАСЦІ

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ БУДУЕ ХРАМ

**У 1991 годзе ў Мінску на пустэчы ля вуліцы Прытыцкага з'явілася вельмі дзіўная пабудова. Армейская палатка з крыжам і іконай над ёю стала пачаткам храма ў гонар іконы Божай Маці Усіх смуткуючых Радасце. У тым жа годзе мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт асвяціў закладны камень на месцы, дзе павінен быў вырасці ў будучыні сапраўдны каменны храм.**

**Чатыры гады -- не такі ўжо і вялікі тэрмін, калі ідзе гаворка аб Праваслаўным цэнтры міласэрнасці, куды ўвойдуць царква, храм, нядзельная школа, багадзельня -- дом для адзінокіх састарэлых і інвалідаў, бясплатная сталовая для збяднелых, майстэрні, дзе будзе арганізавана швейная і цяслярская вытворчасць для тых жа інвалідаў, званіца. Аднак, прыехаўшы туды, я не паверыла сваім вачам: побач з усё той жа палаткай узвышалася надта ж прыгожая Спаса-Еўфрасіннеўская царква з амаль гатовай званіцай і фундамент таго самага будучага храма... Я размаўляю з айцом ІГАРАМ, настаяцелем будучага храма, які згадзіўся адказаць на мае пытанні.**

*-- Тое, што ўсяго за некалькі гадоў на пустым месцы вырасла царква, інакш, як цудам, назваць нельга. Я, шчыра кажучы, чакала ўбачыць тут палатку і, у лепшым выпадку, скончаны нулявы цыкл...*

-- Я таксама лічу, што гэта цуд, і ўвесь час адчуваю, што Бог нам дапамагае, прычым так, што часам нават задумваешся, чаму. Ён так спяшаецца пабудаваць тое, што будзе стаяць на гэтай пляцоўцы. Яшчэ большым цудам гэта падаецца зараз, калі так цяжка з грашыма і будаўнічымі матэрыяламі, бо як толькі ў нас складваецца крытычная сітуацыя і няма сродкаў, каб плаціць па рахунках і зарплату рабочым, знаходзіцца арганізацыя ці фірма, якая якраз у гэты момант нам дапамагае. Канешне ж, усё вельмі дорага, і ў нас часта пытаюцца, хто гэта ўсё будуе...

*-- Дарэчы, хто? Я толькі што сама бачыла, як да вас падышоў цясляр, які бясплатна прапанаваў свае паслугі.*

-- Так бывае даволі часта, але ў асноўным тут працуюць прафесіяналы, бо мы лічым, што гэта занадта сур'ёзная справа, каб рабіць яе на энтузіязме. Але ў нас сапраўды вельмі многа добраахвотных памочнікаў. Усю цэглу, з якой пабудавана царква, нашы прыхаджанкі, старэнькія бабулькі, сваімі рукамі, па адной, спачатку перакалалі з паддонаў на зямлю, каб паспець вярнуць іх на завод і пазбегнуць штрафу, а потым -- зноў на паддоны, але ўжо на нашы, каб потым кранам даставіць на месца будаўніцтва. І нікога не трэба прасіць, людзі самі прыходзяць і працуюць.

*-- І яшчэ я заўважыла, што за апошні час у вас значна прыбавілася прыхаджан.*

-- Гэта так, і зараз ужо нас ніхто не разглядае як часовы храм. І да самой палаткі людзі ставяцца, як да сапраўднай царквы, дзе адбываюцца і вянчанні, і хрышчэнні.

*-- Аднак, наколькі я ведаю, ваш храм -- не першы ў Мінску, пабудаваны ў гонар іконы Божай Маці Усіх смуткуючых Радасце?*

-- Па-першае, трэба сказаць, што ва ўсе часы гэтая ікона дапамагала самым абяздоленым, гаротным і нямоглым людзям -- сляпым, хворым, інвалідам. Менавіта яны знаходзілі суцяшэнне ў храмах, пабудаваных у гонар гэтай іконы. І такая царква ў Мінску, сапраўды, ужо была, і знахо...ся яна якраз там, дзе зараз ...дзіцца левае крыло Дома ўрада. Калі яго пачалі будаваць, царкву зруйнавалі. А стаяла яна менавіта там, што да рэвалюцыі на цяперашняй вуліцы Мяснікова жылі сляпыя, цэлая вуліца сляпых, і яны лічылі гэту ...царкву сваёй.

*-- Вель... цікавыя звесткі. Калі ўспамінаеш, што знаходзіцца зараз на гэтым месцы, міжволі ўзнікаюць у памяці біблейскія словы -- "сляпыя, павадыры сляпых. Калі сляпы павядзе сляпога, яны абодва ўпадуць у яміну..."*

-- Мы знайшлі ў архівах звесткі пра святара, што там служыў, айца Уладзіміра Херсака, які вельмі пацярпеў у гады рэпрэсій, звязаліся з яго дачкой, яна зараз жыве ў Маскве. Была ў Мінску яшчэ адна царква ў гонар іконы Божай Маці Усіх смуткуючых Радасце, і знаходзілася яна ў турме, там, дзе зараз наведваю турму, нам там выдзелілі пакой, дзе самі вязні хочуць таксама зрабіць царкву, нават з купалам, хаця, паўтараю, гэта звычайны пакой на самым верхнім паверсе звычайнага будынка.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



Айцец ІГАР на будаўнічай пляцоўцы.

ДАСЛЕДЧЫК ЖЫЦЦЯ, ДЗЕЙНАСЦІ І СВЕТАПОГЛЯДУ Кастуся КАЛІНОЎСКАГА

# КІСЯЛЁЎ ЗНАЁМЫ І НЕЗНАЁМЫ

Для беларускай гістарычнай навукі і літаратуры Генадзь Кісялёў стаў вялікай, даўно чаканай знаходкай. Расійскі хлопец, ён вучыўся ў Маскоўскім гісторыка-архіўным інстытуце, які скончыў у 1953 годзе. Некаторы час працаваў у Вільні ў дзяржаўных архівах Літвы. На Беларусі ў навуковых і літаратурных колах звярнулі на яго ўвагу пасля публікацыі артыкула "Вялікі сын беларускага народа" ў часопісе "Дружба народаў" (1958, N 7). Выхад гэтай працы пра дзейнасць і светапогляд вялікага змагара Кастуся Каліноўскага, якая аўтарам свядома пабудавана на дакладных дакументах, што захаваліся ў архівах Вільні, меў свой працяг. Даследчык таксама выкарыстаў звесткі з такіх цікавых крыніц, як мемуары і публікацыі афіцыйных асоб мураўёўскага акружэння генерала В.Ратча і чыноўніка А.Масалова, якія мелі магчымасць азнаёміцца з сакрэтнымі дакументальнымі матэрыяламі, што датычыліся К.Каліноўскага. Аўтар звярнуў увагу на працы рускага, беларускага і польскага даследчыкаў А.Смірнова, І.Лушчыцкага і В.Кардовіча.

Менавіта тады, у канцы 50-х гадоў, беларускі вучоны, будучы член-карэспандэнт АН Беларусі І.Лушчыцкі быў зацікаўлены ў знаходках дакументаў пра паўстанне 1863 года на Беларусі і ў Літве, таму даследчык з Вільні выклікаў у яго асобы інтарэс, і ён вырашыў абавязкова пазнаёміцца з Г.Кісялёвым.

**(Працяг на 7-й стар.).**

ЗУСІМ САКРЭТНА

# БЕЗ ВЫЗНАЧЭННЯ ПРЫЧЫН СМЕРЦІ



са-3

СССР
КОМИТЕТ
государственной безопасности
при Совете Министров СССР
26 декабря 1962 г.
№3265-с
гор. Москва



Совершенно секретно
экз. №1

49556

3-й сектор

В 1955 году с ведома инстанций и по согласованию с Прокуратурой СССР Комитетом госбезопасности было издано указание N 108сс органам КГБ, определяющее порядок рассмотрения заявлений граждан, интересующихся судьбой лиц, расстрелянных по решениям несудебных органов (б. Коллегией ОГПУ, тройками ПП ОГПУ-НКВД-УНКВД и Комиссией НКВД СССР и Прокурора СССР). В соответствии с этими указаниями органы госбезопасности сообщают членам семей осужденных, что их родственники были приговорены к 10 годам ИТЛ и умерли в местах лишения свободы, а в необходимых случаях при разрешении имущественных или иных правовых вопросов регистрируют в загсах смерть расстрелянных с выдачей заявителям свидетельств, в которых даты смерти указываются в пределах 10 лет со дня ареста, а причины смерти -- вымышленные.

Установление в 1955 году указанного порядка мотивировалось тем, что в период массовых репрессий было необоснованно осуждено большое количество лиц, поэтому сообщение о действительной судьбе репрессированных могло отрицательно влиять на положение их семей. Кроме того, предполагалось, что сообщение членам семей расстрелянных действительной судьбы их родственников могло быть использовано в то время отдельными враждебными элементами в ущерб интересам советского государства.

Существующий порядок сообщения вымышленных данных касается в основном невинно пострадавших советских граж...ч, которые были расстреляны по решениям несудебных ор... в в период массовых репрессий.

В результате пересмотра уголовных дел с 1954 по 1961 год из общего количества расстрелянных в несудебном порядке около половины реабилитированы. В отношении большинства из них родственникам были объявлены не соответствующие действительности сведения о смерти, якобы наступившей в местах лишения свободы.

После проделанной Центральным Комитетом КПСС р... ы по разоблачению беззаконий, допущенных в период культа ...ичности Сталина, существующий порядок рассмотрения заявлений граждан с запросами о судьбе их родственников считаем необходимым отменить.

Сообщение гражданам вымышленных дат и обстоятельств смерти близких им лиц ставит органы госбезопасности в ложное положение, особенно при опубликовании в печати дат смерти лиц, имевших в прошлом заслуги перед партией и государством. Кроме того, регистрация смерти расстрелянных лиц по решениям несудебных органов с указанием в документах вымышленных сроков их пребывания в местах заключения ставит членов их семей в неравные условия с членами семей лиц, расстрелянных по суду.

Советские люди о массовых нарушениях социалистической законности осведомлены, и мотивы, в силу которых в 1955 году был установлен порядок сообщения родственникам о судьбе репрессированных членов их семей, отпали.

Учитывая изложенное, представляется целесообразным впредь на запросы граждан о судьбе их родственников, осужденных в несудебном порядке к расстрелу, устно сообщать действительные обстоятельства смерти этих лиц, а регистрацию в загсах их смерти производить датой расстрела, без указания причины смерти, как это делает Военная коллегия Верховного суда СССР и военные трибуналы в отношении лиц, расстрелянных по приговорам судов.

При этом имеется в виду, что данный порядок не будет распространяться на лиц, в отношении которых ответы давались в соответствии с ранее установленными и действующими в настоящее время порядками рассмотрения заявлений.

Уведомление граждан о действительной причине смерти осужденных лиц будет давать членам их семей, имеющим право на пенсионное обеспечение по случаю потери кормильца, основание возбуждать ходатайства перед соответствующими органами пенсий на льготных основаниях как родственникам лиц, умерших от трудового увечья или погибших при исполнении служебных обязанностей.

Следует отметить, что количество заявлений о судьбе осужденных в несудебном порядке с каждым годом сокращается (в 1959 году 36 225, а за 8 месяцев 1962 года 8 018).

Установленный решением Президиума Совета Министров СССР от 15 декабря 1959 года (протокол N 37) порядок сообщения за границу дат смерти осужденных к расстрелу применительно к обстоятельствам каждого дела, но не ранее дат приведения приговора в исполнение и не позднее 10 лет со дня ареста, по нашему мнению, целесообразно не изменять.

Данное предложение согласовано с Прокуратурой СССР и Верховным судом СССР.

Прошу рассмотреть.
**ПРЕДСЕДАТЕЛЬ КОМИТЕТА ГОСБЕЗОПАСНОСТИ.**

**Гэты дакумент друкуецца ў беларускай прэсе ўпершыню. Каментарый да яго кандыдата гістарычных навук Ігара КУЗНЯЦОВА чытайце на 4-й стар.**

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ БУДУЕ ХРАМ



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зараз у нас на будоўлі працуе былы вязень, малады чалавек, які, адбыўшы пакаранне, прыйшоў сюды, да нас. А яшчэ адзін былы вязень нядаўна звярнуўся да мяне з просьбай павянчаць яго.

*-- Многія зараз лічаць, што царква вельмі багатая, калі яна можа дазволіць сабе такія будоўлі.*

-- Ведаеце, калі ў 1991 годзе мітрапаліт Філарэт асвячаў тут закладны камень, у мяне ў кішэні было ўсяго пяць капеек. Вельмі добра памятаю, як я стаяў на пустым полі з гэтымі пяццю капейкамі, з якімі і меўся пабудаваць храм. Тыя, хто лічаць нас вельмі багатымі, нават уявіць сабе не могуць, колькі кабінетаў давялося абысці, каб тут цяпер стаяла царква.

*-- Часта даводзіцца чуць,.што калі фірмы ці іншыя камерцыйныя структуры даюць царкве грошы, яны такім чынам замольваюць свае грахі. Як вы ставіцеся да гэтага?*

-- Ну і вельмі добра, калі ў чалавека ўзнік... патрэба ў пакаянні, бо менавіта да гэтаг... заклікаў Гасподзь. Няхай яна праявіцца хаця б такім чынам...

*-- Грошы -- гэта, канешне, добра. А ці прыходзяць новыя бізнесмены ў царкву самі, ці цікавяцца яны рэлігіяй?*

-- Сярод іх сустракаюцца вельмі розныя лю, як, дарэчы, і сярод журналістаў, настаўнікаў, прадстаўнікоў любой іншай прафесіі. Бываюць яўныя цынікі, якія гэтага і не хаваюць, а ёсць і такія, хто рэгулярна ходзіць у царкву, хто вянчаецца, спавядаецца. У нас, напрыклад, склаліся вельмі добрыя адносіны з фірмай "Пушэ". Гэта наш асноўны спонсар.

*-- Што змянілася за апошнія гады ў адносінах людзей да царквы? Некалькі год таму быў яўны ўздым рэлігійных пачуццяў, ці не назіраецца зараз яго спад?*

-- Так, уздым быў, а зараз усё прыйшло ў нармальны стан, і тыя, хто сапраўды верыў ці хаця б цікавіўся Богам, прыйшлі ў царкву і засталіся тут. Паглядзіце самі: наша палатка перапоўнена, а сёння ж было нават дзве службы. І гэта не мода. Людзі спавядаюцца, а я, паверце, выдатна адчуваю, шчыра гаворыць чалавек ці не, хаця ён і першы раз сюды прыйшоў. Аб адносінах да рэлігіі магу меркаваць па такім выпадку. Я ў поўным царкоўным убранні раніцай выйшаў з дому на вуліцу, і малады чалавек, які стаяў ля пад'езда, зняў капялюш, пакланіўся, павітаў мяне. Я вельмі ўзрадаваўся гэтаму. Іду далей, насустрач -- кампанія, якая пачынае смяяцца, лаяцца, паказваць пальцамі. Але ж, паверце, такіх застаецца ўсё менш і менш, і такога відавочнага цемрашальства ўжо няммнога.



*-- Вы ўжылі слова "цемрашальства". Раней так называлі рэлігію, а зараз вы так назвалі паводзіны атэістаў...*

-- Між іншым, гэта цалкам царкоўны тэрмін, які некалі атэісты прыстасавалі для сваіх патрэб, хаця менавіта атэізм і ёсць сапраўдная цемра і шаленства. А тое, што адбываецца зараз, як ніколі дакладна адлюстроўвае сэнс гэтага слова. З'яўляецца шмат розных сект, культаў, брацтваў, што інакш і не назавеш, як цемрашальства.

*-- Як вы лічыце, чаму людзі ідуць туды, а не ў сваю праваслаўную царкву?*

-- Семдзесят год атэізму не маглі не накласці адбітка на чалавечую свядомасць. Столькі часу людзям даводзілі, што царква -- гэта дрэнна, дык ... калі наша моладзь гатова верыць любому заезджаму ..., што зараз пацягнуліся сюды, бо дома іх ужо ніхто не слухае. А тут -- цэлая краіна людзей, якія прагнуць веры. Аднойчы ў Германіі я, праваслаўны святар, разгаварыўся з ксяндзом і пастарам. І падчас нашай гутаркі нехта з іх выказаў цікавую думку: так, у нас, г.зн. на Захадзе, ёсць храмы і царкоўныя пабудовы, у вас -- веруючыя...

*-- Мне падаецца, што вам вельмі пашчасціла, бо пабудаваць свой храм наканавана нямногім...*

-- Шчыра кажучы, я думаю, што менавіта для гэтай справы я і нарадзіўся на свет. Я малю Госпада, каб ён даў мне магчымасць дабудаваць храм для людзей і хаця б адным вокам глянуць, як гэта будзе выглядаць канчаткова. Ведаеце, я ж усё, што тут будзе, уяўляю сабе, трымаю ў галаве кожны пакой, кожны куточак. Ведаю, дзе што будзе вісець, як выглядаць, у які колер будзе пафарбавана. Я раней усё думаў: ну навошта ж Госпаду было патрэбна, каб я атрымаў архітэктурную адукацыю, навошта было трэба столькі вучыцца ў інстытуце? Зараз мне гэта зразумела, бо я разбіраюся ва ўсім, што робіцца на будаўнічай пляцоўцы, без мяне тут не прымаецца ніводнае рашэнне. Усё ў жыцці для нечага патрэбна, галоўнае -- зразумець, навошта ты нарадзіўся на свет, дзеля чаго табе нешта дадзена Богам, і паспець гэта рэалізаваць, зрабіўшы сваю справу.

"Вы -- храм Божы", -- сказаў Гасподзь аб кожным з нас. І сапраўды, усё жыццё мы будуем у сваёй душы сімвалічны храм сумлення, любові, спагады. Часам руйнуем і ўласны, і чужы. Але толькі адзінкам Бог дарує магчымасць пабудаваць храм літаральна, увасобіўшы ў камені вялікую ідэю ўсеагульнай любові, еднасці і братэрства, каб тысячы спакутаваных душ знаходзілі там суцяшэнне, спакой і мір. Хай і далей Бог дапамагае айцу Ігару ў яго справе, хай ён дапаможа ўсім нам, і нашай Беларусі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: так будзе выглядаць Праваслаўны цэнтр міласэрнасці; богаслужэнне ў капліцы.**

**Ганарар за артыкул аўтар пералічвае на разліковы рахунак 700724 у АКБ "Прыорбанк", код 749 (на будаўніцтва храма).**

## ГАЗЕТА БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ

# СВЯЦІ, "ПРАМЕНЬ"

"Паважаныя суайчыннікі! Сёння вы трымаеце ў руках і здзіўлена разглядаеце першы нумар газеты "Прамень", надрукаванай на вашай роднай мове. Цяплей зрабілася ў вас на сэрцы, бо менавіта з сённяшняга дня вы адчуваеце сябе не такімі ўжо адарванымі ад сваёй матулі-Радзімы і адзін ад аднаго тут, у Латвіі", — так пачынаецца зварот "Да беларусаў Латвіі", які надрукаваны ў першым нумары газеты для землякоў.

Адразу адзначым: і мы радуемся гэтай падзеі вельмі шчыра. Не староннім назіральнікам тут быў калектыў рэдакцыі "Голасу Радзімы". На нашу падтрымку "Прамень" можа разлічваць заўжды. Мы ведаем, як цяжка, пераадольваючы граніцы, розныя няўвязкі, выпадковасці і іншае, атрымаць сёння вестачку з Радзімы, зарыентавацца ў тых падзеях, што адбываюцца ў палітычным, культурным, эканамічным жыцці на зямлі бацькоў. Але, як слушна падкрэсліваецца ў звароце, новае выданне заклікае землякоў у Латвіі не быць староннімі назіральнікамі гэтых падзей, а прыняць самы актыўны ўдзел у працэсе Адраджэння на Беларусі.

Газета "Прамень", несумненна, адыграе значную ролю ў згуртаванні землякоў, што жывуць у блізкім замежжы. Калектыў новага выдання лічыць, што газета будзе спрыяць і ўмацаванню дружбы беларусаў, бо шмат агульнага ёсць у культуры і традыцыях двух народаў.

Першы крок заўжды цяжкі. Нялёгка даўся ён і калектыву новага выдання. Але мы сталі перад здзейсненым: газета выйшла! І яна, вядома, знойдзе свайго чытача, заваюе аўтарытэт і павагу ў землякоў, што жывуць у Латвіі.

Выхад першага нумара газеты не застаўся незаўважаным. Шчырыя віншаванні з гэтай нагоды паступілі ад многіх грамадскіх арганізацый і землякоў, што жывуць і ў Латвіі, і за яе межамі. "Прамень" ад імя газеты "Голас Радзімы" павіншаваў яго рэдактар Вацлаў Мацкевіч, які зычыць новаму выданню доўгіх год творчага жыцця, добрага плёну на цярністай ніве нацыянальнага адраджэння, спору і радасці ў працы.


ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
ПРАМЕНЬ
ГАЗЕТА БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ
СВЯЦІ І НАПАМІНАЙ!
Да беларусаў Латвіі

**НА ЗДЫМКУ: першая старонка першага нумара газеты "Прамень".**

# БЕЗ ВЫЗНАЧЭННЯ ПРЫЧЫН СМЕРЦІ

У дакуменце гэтым дзіўны не сам факт хлусні (да яе мы прывыклі з дзяцінства), а тое, што мана з такой дакладнасцю распісвалася на вышэйшым дзяржаўным узроўні. Пра лёсы арыштаваных ілгалі заўсёды. Гэта ведае кожны, хто прайшоў чэргі да даведачных акенцаў -- пракуратурных, міліцэйскіх, гулагаўскіх. Твой блізкі знаходзіўся ў адной турме, а табе называлі другую, яго везлі на Усход, а гаварылі, што на Поўнач, ці зусім адгаворваліся няведаннем ("звестак аб месцазнаходжанні не маем"), ілгалі аб прычынах арышту і асуджэння, лгалі аб стане здароўя. І асаблівая мана аб прычынах смерці: "сардэчная недастатковасць", "запаленне лёгкіх", але ніколі не голад, не туберкулёз, не самагубства, не расстрэл.

Праўда раскрывалася пастунова, малымі часткамі, у асноўным пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў. Аднак была катэгорыя ахвяр рэпрэсій, пра лёсы якой працягвалі свядома лгаць і ў пару першай рэабілітацыі, і пры застоі, і ў разгар перабудовы. Пад забаронай увесь гэты час заставалася праўда аб лёсах тых, хто быў расстраляны па прыгаворах несудовых органаў -- "асобых троек", "двоек", Камісіі НКУС і Пракурора СССР і г.д.

Самы ранні з вядомых нам загадаў НКУС па гэтаму пытанню адносіцца да 1939 года. Загад прадпісваў на запыты сваякоў аб лёсе таго ці іншага расстралянага адказваць, што ён быў асуджаны на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў без права перапіскі і перадач. Восенню 1945 года загад быў скарэкціраваны: заяўнікам сталі цяпер гаварыць, што іх сваякі памерлі ў месцах пазбаўлення волі.

Ішлі гады, пытанні вакол лёсаў расстраляных накапліваліся і прымушалі [illegible] МДБ, і Міністэрства юс[illegible]і, і Пракуратуру звяртацца ў "інстанцыі" (г.зн. у ЦК КПСС) з просьбай вынесці рашэнне па ўсіх аспектах гэтай праблемы: што адказваць вусна, якія адказы можна даваць пісьмова, як і дзе рэгістраваць смерць, як запаўняць у пасведчанні аб смерці звесткі аб даце, прычыне, месцы яе, выдаваць якія-небудзь дакументы, звязаныя з маёмаснымі праблемамі ці не, і да т.п.

На пасяджэнні Прэзідыума ЦК КПСС 18 жніўня 1955 года, дзе разбіралася гэтае пытанне, была вынесена Пастанова, на падставе якой праз тыдзень тагачасны старшыня КДБ СССР І. Сяроў выдаў разгорнутае Указанне. Загадвалася, як і раней, паведамляць адносна расстраляных, што яны былі прыгавораны да 10 гадоў ППЛ і памерлі ў час адбывання пакарання.

У неабходных выпадках (калі гэта патрабавалася для вырашэння маёмасных ці прававых пытанняў) загадвалася рэгістраваць смерць у органах ЗАГС па месцу жыхарства асуджанага да арышту і выдаваць пасведчанне аб смерці. Пры гэтым дата смерці вызначалася органамі КДБ адвольна ў межах 10 гадоў з дня арышту, выдуманай была і прычына смерці, а ў якасці месца называлася месца жыхарства асуджанага да арышту.

Што тычыцца расстраляных па прыгаворах Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР, то тут указанні ЗАГСам павінны былі даваць не органы КДБ, а сама Ваенная калегія. Па існаваўшаму ў тыя гады ў Ваеннай калегіі парадку, сваякам асуджаных да вышэйшай меры пакарання паведамлялася не аб расстрэле, а аб выдуманай даце і прычыне смерці іх родных і блізкіх.

Работнікі савецкіх і партыйных органаў, разбіраючы заявы сваякоў тых, хто быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, паведамлялі ім аб расстрэле асуджаных. Ваенная калегія настойвала на тым, што яны памерлі ў месцах пазбаўлення волі.

Органы НКУС-МДБ-КДБ паведамлялі сваякам асуджаных да расстрэлу, што апошнія быццам бы атрымалі 10 гадоў пазбаўлення волі ў аддаленых мясцовасцях Крайняй Поўначы без права перапіскі. Ваенная калегія на гэтай падставе давала выдуманую дату смерці. Паміж днём асуджэння і гэтай датай утвараўся разрыў -- 5--6 гадоў.

Нягледзячы на тое, што ў Ваенную калегію ў перыяд 1953--1959 гадоў рэзка павялічылася колькасць зваротаў грамадскіх арганізацый, устаноў і асоб са спісамі грамадзян, якія мелі ў мінулым вялікія заслугі перад дзяржавай, з просьбай паведаміць, ці рэабілітаваны яны і які іх лёс, Ваенная калегія працягвала паведамляць выдуманыя даты смерці. У выніку гэтага такія даты сталі з'яўляцца ў афіцыйных дакументах і пасведчаннях аб смерці, органы ЗАГС па ўказанню КДБ працягвалі выдаваць сваякам ліпавыя "пасведчанні аб смерці". Такія "пасведчанні" атрымалі сотні тысяч нашых суграмадзян.

Гэты парадак праіснаваў на працягу 8 гадоў і быў часткова зменены толькі ў 1963 годзе. Як зменены -- можа меркаваць чытач, уважліва азнаёміўшыся з публікуемымі прапановамі старшыні КДБ СССР В. Сямічаснага.

Не спыняючыся на абгрунтаванні новаўвядзенняў, адзначым толькі іх сутнасць. Цяпер тым [illegible]то звяртаўся па звесткі ўп[illegible]ню, вусна адказвалі пра[illegible]ду, у пасведчаннях аб смерці таксама пісалі праўдзівую дату і месца смерці і толькі ў графе аб яе прычыне ставілі прочырк. Вядома, гэта можна было б лічыць сур'ёзным крокам на шляху да гістарычнай праўды, калі б не адна акалічнасць: тым, каму раней даваліся лжывыя адказы (у адпаведнасці з указаннямі 1955 года), працягвалі лгаць па-ранейшаму. Не зменены быў парадак і адносна звестак, што паведамляліся за мяжу: тут, як і раней, прапаноўвалася кіравацца меркаваннямі практычнай мэтазгоднасці ў кожным асобным выпадку.

Мана ўзору 1963 года праіснавала да канца 80-х гадоў і была адменена (зноў-такі па ўзгадненню з "інстанцыяй") загадам па КДБ СССР ад 30 верасня 1989 года. Такім чынам, людзі, што атрымалі адказ паміж 1955 і 1963 гадамі і не звярталіся з новымі запытамі пасля 1989 года, так і не даведаліся пра сапраўдныя прычыны і дату гібелі сваіх блізкіх. Напомню пры гэтым, што размова ідзе пра тых, хто быў расстраляны па рашэннях несудовых органаў.

Цяжка сказаць, навошта патрэбна было гэта шматгадовае нагрувашчванне маны. А чаму столькі гадоў утойвалі праўду аб Курапатах і Катыні? Чаму не раскрывалі складу "троек"? Чаму не апублікавалі тэлеграму 1939 года аб прымяненні катаванняў, аб якой прагаварыўся публічна яшчэ М. Хрушчоў? Сістэма ахоўвала сябе, утойваючы ад народа праўду.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

## ХРОНІКА МАБ

### ПАСЯДЖЭННЕ КАМІТЭТА

На чарговым пасяджэнні Міжнароднага камітэта беларусістаў, якое адбылося 14 лютага, былі абмеркаваны ўдакладненні ў статуце, абумоўленыя новым Законам Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях". Асноўная дыскусія разгарэлася вакол сяброўства (членства): калектыўнае ці індывідуальнае? Але паколькі не ва ўсіх краінах існуюць нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў, паколькі некаторыя навукоўцы жадаюць заставацца "самі па сабе", побач з калектыўным сяброўствам было вырашана пакінуць і індывідуальнае.

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі таксама парадак работы II Міжнароднага кангрэсу беларусістаў, які адбудзецца ў Мінску 16--18 мая 1995 года. Асноўны накірунак яго дзейнасці акрэслены назвай "Беларусь паміж Усходам і Захадам: праблемы міжнацыянальнага, міжканфесійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу". Побач з пленарнымі і секцыйнымі пасяджэннямі было вырашана 18 мая правесці "круглыя сталы", прысвечаныя беларуска-рускаму, беларуска-польскаму, беларуска-ўкраінскаму, беларуска-літоўскаму і беларуска-латышскаму культурнаму ўзаемадзеянню, а таксама беларускаму перыяду жыцця і творчасці славутага італьянскага архітэктара Джавані Бернардоні і перамяшчэнню беларускіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей у час другой сусветнай вайны і пасля яе (сюды ж дадаюцца каштоўнасці, што перамяшчаліся праз Беларусь з іншых краін). Адбудуцца таксама справаздача і выбары камітэта МАБ.

**Алеся БЕЛАВУСАВА.**

### ПРА ТАТАРСКУЮ КУЛЬТУРУ БЕЛАРУСІ

Міжнародная асацыяцыя беларусістаў далучылася да арганізатараў Другой міжнароднай навуковай канферэнцыі "Ісламская культура татараў-мусульманаў Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі". Адбудзецца яна ў Мінску 19--20 мая -- адразу ж услед за II Міжнародным кангрэсам беларусістаў і будзе прысвечана шасцісотгоддзю пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якой з'яўлялася Вялікае Княства Літоўскае.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі будуць прымацца да 1 красавіка 1995 года, а тэзісы дакладаў і паведамленняў (да пяці старонак машынапісу праз 1,5 інтэрвала) -- да 15 красавіка па адрасу: **Беларусь, 220131, Мінск-131, вул. Мірашнічэнкі, 51-132.**

**Ібрагім КАНАПАЦКІ.**

### ВЕНГЕРСКІЯ БЕЛАРУСІСТЫ

У Будапешце адбыўся ўстаноўчы сход венгерскіх беларусістаў. Прэзідэнтам Нацыянальнай асацыяцыі быў выбраны дацэнт Андраш Золтан, які працуе загадчыкам кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі універсітэта імя Л. Этвеша ў Будапешце, вывучае помнікі старажытнага пісьменства, сакратаром -- Крысціна Дуфала.

Сярод 33 венгерскіх беларусістаў ёсць сябры нашай культуры з венгерскай дыяспары ў Закарпацці, з пасольства Венгрыі ў Польшчы. Але найбольш іх -- у педінстытуце імя Бешанесі ў Ніраньхазе.

**Мікалай ЛЮЦКО.**



**Бадай, няма больш папулярнага дзіцячага самадзейнага калектыву на Брэстчыне, чым узорны ансамбль "Лялькі" Баранавіцкага гарадскога Дома культуры. Узрсот у яго ўжо шаноўны -- амаль 50, але духам ён юны. Сотні баранавіцкіх хлопчыкаў і дзяўчынак вучыліся мастацтву танца ў нязменнага кіраўніка ансамбля, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь Ганны Ліхман. Калектыў -- лаўрэат многіх фестываляў, міжнародных конкурсаў.**

**Цяпер у асноўным і падрыхтоўчых саставах ансамбля -- больш за 70 дзяцей з сярэдніх школ і дзіцячых садоў горада. У рэпертуары -- і "Лялькі", "Жураўлікі", і "Лявоніха" -- усяго 15 харэаграфічных кампазіцый.**

**У бліжэйшых планах калектыву — серыя канцэртаў для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.**

**НА ЗДЫМКУ: танцуюць "Лялькі".**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ

## А. КІРВЕЛЯ "УРБАНІЯ"

# ЛЁС, СТЫЛЬ, НАДЗЕЯ

23 лютага Саюз пісьменнікаў Беларусі і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" наладзілі творчы вечар беларускага пісьменніка з Санкт-Пецярбурга Анатоля Кірвеля. Адбылася прэм'ера яго кнігі "Урбанія", якая выйшла ў Мінску ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". У кнізе -- мініяцюры і вершы ў прозе, а таксама невялікія апавяданні. Каля двух дзесяцігоддзяў жыве ў Пецярбургу Анатоль Кірвель, але не страціў сувязяў з Бацькаўшчынай. І не толькі таму, што тут засталіся яго родныя, маці, але і таму, што гэта яго Радзіма -- крыніца творчасці, нацыянальныя карані.

Наша першае знаёмства з многімі прадстаўнікамі беларускай суполкі ў Пецярбургу "Маю гонар" адбылося тады, калі яны ў 1992 годзе з дапамогай "Бацькаўшчыны" наладзілі выставу ў мінскім Доме мастацтваў. Тады я ўпершыню прачытала многія мініяцюры А. Кірвеля, прагледзела яго ўласныя ілюстрацыі да іх і напісала водгук, што іх абавязкова трэба выдаць асобнай кнігай. І цяпер, слухаючы на вечарыне яго мініяцюры, вершы ў прозе ў добрым мастацкім выкананні, яшчэ раз упэўнілася ў несумненным таленце аўтара. "Урбанія", па ўласнаму вызначэнню пісьменніка, "гэта лёс, гэта стыль, гэта надзея". І сапраўды, кніга пакідае добрыя ўражанні і спадзяванні, што творчы лёс аўтара толькі пачынаецца і наперадзе новыя поспехі і мастацкія адкрыцці.

"Урбанія" выявіла патэнцыяльныя магчымасці пісьменніка. Першы раздзел кнігі "Бог няроўна дзеліць" пазначаны кароткімі выслоўямі, у якіх адчуваецца адвечная народная мудрасць, што змог пачуць, асэнсаваць аўтар, улавіць іх глыбокі філасофскі змест, а прытчы з раздзела "Пасадзіў чалавек зярнятка" ўражваюць дакладнай праекцыяй на нашы сённяшнія праблемы ("Жабрачка", "Мова", "Малпа і акуляры", "Блыха"). Але найбольш удаюцца аўтару кароткія псіхалагічныя замалёўкі -апавяданні ("Ганчак", "Змяя", "Талеры на снезе"), у якіх выяўляюцца адметныя рысы таленту А. Кірвеля: назіральнасць, уменне прыкмеціць рух, настрой думак героя, некалькімі штрыхамі намаляваць, вызначыць асноўнае ў чалавеку, ягоным характары, паводзінах, учынках. Гэта якраз тыя ўласцівасці, якія неабходны мастаку-празаіку, і ў гэтым прамку, на маю думку, і трэба развіваць свае здольнасці Анатолю Кірвелю. Бо мяне, чытача, найбольш уразілі (і запомніліся) менавіта такія яго празаічныя апавяданні: я выразна бачу жанчыну з магазіннай чаргі, у якой аўтар-апавядальнік па ледзь улоўнаму беларускаму акцэнту пазнаў сваю зямлячку, маладога чалавека ў тралейбусе, на чыім твары было напісана, што яму да смерці хочацца ў стойла, маладзіцу, што, убачыўшы прывабнага мужчыну, пачынае разважаць, ці шчаслівая яна з мужам. Уяўляю твар жанчыны, на які напаўзае змяя, гатовая ўджаліць, але "ўмомант знікла, саступіўшы месца пакутлівай шматгадовай стоме, зусім трошачкі спагадзе, а больш -- дык горкаму разуменню таго, што цяпер ужо нічога не паправіш: трэба жыць і з гэтакім, якога маеш: дзеткі растуць"...

Пісьменнік вельмі тонка адчувае характво прыроды, яго апісанне зімовага Летняга саду ў Пецярбургу проста жывая карціна, якою нельга не захапляцца: "Снег усчаўся звечара, падаў усю ноч, і раніцай Летні сад меў такі выгляд, які не меў за апошнія дзесяткі з два гадоў: скрозь па бялюткім снезе -- ярка-жоўтае кляновае лісце! Яно палала ў ранішнім святле на раўнюткай, нічым не спэцканай і не спярэшчанай аніводным следам паверхні намеценага за ноч снегу. І прыходзіла думка, нібыта хто, едучы ўначы, пагубляў тут залатыя талеры альбо знарок шпурнуў іх на снег, каб мы потым дзівіліся ды перапытвалі, хто ж гэткі багацей -- шчыры, ды не надта разважлівы?!

І сярод гэтай чысцюткай белі, сярод раскіданага па ёй золата, сярод збітага ветрам і трохі скурчанага ад марозу зялёнага лісця -- збянтэжана-сіратлівыя мармуровыя скульптуры..."

Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе мы прачытаем новую кнігу прозы А. Кірвеля, які добра заявіў пра сваё майстэрства кнігай "Урбанія". Яе вартасці былі адзначаны на вечарыне многімі прысутнымі: Л. Леановічам -- вядомым беларускім празаікам, які вёў гэту вечарыну, Я. Лецкам і Л. Дранько-Майсюком, што прычыніліся да выдання "Урбаніі", Ганнай Сурмач -- старшынёй Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**Лідзія САВІК.**

# КІСЯЛЁЎ ЗНАЁМЫ І НЕЗНАЁМЫ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Пашанцавала нашаму гісторыку і літаратуразнаўцу сустрэцца і пасябраваць з вядомым беларускім пісьменнікам У.Караткевічам, які заўсёды з вялікім імпэтам і дасціпнасцю ставіўся да вывучэння паўстання 1863 года і постаці Кастуся Каліноўскага.

Падтрымка і парады больш сталых і ўплывовых людзей на гэтай ступені жыцця маладога даследчыка адыгралі станоўчую ролю ў яго навуковым уздыме. Сюды трэба яшчэ дадаць талент і вялікую працаздольнасць Г.Кісялёва -- усё гэта спрыяла навуковым пошукам і літаратурным знаходкам зараз знакамітага вучонага, які зрабіў шмат адкрыццяў у гістарычнай і літаратуразнаўчай навуках на Беларусі.

Яго першапачатковая адукацыя як архівіста дае магчымасць прафесійна займацца крыніцазнаўствам, тэксталогіяй, археаграфіяй. У гэтых спецыяльных дысцыплінах ён выступае вельмі ўдала. Згадаем хаця б удзел у падрыхтоўцы зборнікаў дакументаў (выйшлі ў Маскве ў 1964--1965 гадах), што з'явілася значнай вяхой у вывучэнні перадумоў і паўстання 1863 года на Беларусі і ў Літве: "Рэвалюцыйны ўздым у Літве і Беларусі 1861--1862 гг." (1964), "Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863--1864 гг." (1965).

У кожным артыкуле, прысвечаным рэвалюцыйным падзеям сярэдзіны XIX стагоддзя, Г.Кісялёў заўсёды публікуе нейкі новы невядомы або малавядомы дакумент. Амаль штогод такія артыкулы з'яўляюцца ў беларускіх часопісах. Яны тычацца розных бакоў дзейнасці і светапогляду К.Каліноўскага і яго паплечнікаў.

Цікавым і змястоўным з'яўляецца вялікі артыкул крыніцазнаўчага напрамку "Да характарыстыкі рэвалюцыйнага светапогляду К.Каліноўскага" ("Звесткі" В.Ф.Ратча як гістарычная крыніца)--(Славянское источниковедение. М., 1965), дзе апублікаваны фрагменты дакументаў і каментарыі да іх, што захоўваюцца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу і доўгі час не былі вядомы даследчыкам. І перш чым прыступіць да аналізу працы генерала Ратча, вызначыць яе ролю для высвятлення светапогляду К.Каліноўскага, аўтар робіць дэталёвы агляд гістарычных крыніц архіўных або апублікаваных, якія даюць магчымасць асэнсаваць падзеі той пары і ўспрыняцце іх беларускім змагаром. Г.Кісялёў падкрэслівае, што нават газета "Мужыцкая праўда", выдадзеная К.Каліноўскім, якая з'яўляецца выдатнай крыніцай, не можа да канца даць поўнае ўяўлянне пра яго светапогляд, таму што яна была разлічана на сярэдняга селяніна. Аўтар сцвярджае, што з такой нагоды трэба перш за ўсё звярнуцца да неапублікаваных фрагментаў "Звестак" Ратча, які меў унікальную магчымасць карыстацца дакументальнымі матэрыяламі следства, размаўляць у турме з удзельнікамі паўстання. Па загаду Мураўёва яму рабілі пісьмовыя справаздачы жандарскі палкоўнік Лосеў, які арыштаваў К.Каліноўскага, і іншыя дзяржаўныя чыноўнікі. Як адзначыў даследчык, Ратч часта даслоўна выкарыстоўваў такія дакументы, што робіць яго пісаніну першакрыніцай.

Аўтар даводзіць, што беларускі змагар у сваіх сацыяльна-палітычных поглядах выступае з антышляхецкімі рэвалюцыйнымі ідэямі, за стварэнне арганізацыі земляробаў. Ён першым у Літоўскім правінцыяльным камітэце ўзняў нацыянальнае пытанне, права Беларусі і Літвы на самавызначэнне. К.Каліноўскі лічыў, што сялянскія выступленні на Беларусі і ў Літве будуць прыкладам для велікарускіх губерняў, мяркуючы, што і польскае сялянства таксама ўзнімецца на барацьбу за зямлю і волю.



Даследчык зноў звяртаецца да апавядання пра свае росшукі поўнага тэксту "Звестак" генерала Ратча аб першакрыніц, якія той выкарыстоўваў, у нарысе "Каліноўскі ў "Сведениях" Ратча", які быў змешчаны ў кнізе Г.Кісялёва "Героі і музы" (Мн., 1982). Адметнай рысай аўтара з'яўляешца тое, што ён заўсёды адзначае плён працы папярэдніх даследчыкаў і вельмі далікатна робіць ім абгрунтаваныя і слушныя заўвагі, калі для гэтага ёсць падставы. Яго ўвагу прыцягнулі даследчыкі з Польшчы і Літвы. Акрамя памянёнага В.Кардовіча, А.Баршчэўскі і К.Канкалеўскі, Ю.Жугжда, С.Лазутка, да іх ён ставіцца станоўча, глыбока не аналізуючы працы польскіх і літоўскіх вучоных.

Вельмі строга і акуратна Г.Кісялёў адносіцца да першакрыніц, якія сёння вядомыя навукоўцам. Вось пра такі важны дакумент, як "Пісьмы з-пад шыбеніцы" (некаторыя вучоныя лічаць, што гэта адзін ліст), даследчык гаворыць, што "Пісьмы" апублікаваны шляхціцам А.Гілерам, які мог іх адрэдагаваць і змяніць змест і сэнс такога цікавага дакумента.

Далейшыя пошукі Г.Кісялёва ў Віленскім гістарычным архіве далі добры вынік.Ён знайшоў справу генерал-губернатарскай канцылярыі 1870 года "Пра перадачу графу Ажароўскаму твора генерал-лейтэнанта Ратча для далейшай распрацоўкі і выдання". Граф Ажароўскі быў перакладчыкам на французскую мову "Звестак" Ратча. Граф імкнуўся сабраць як мага больш матэрыялаў і кніг пра паўстанне 1863 года і быць прадаўжальнікам справы генерала пасля яго смерці. Такім чынам, Г.Кісялёў упісваў новую старонку ў гісторыю паўстання 1863 года. Гэтай інфармацыяй у "Пастскрыптуме" да артыкула даследчык завяршае свой цікавы нарыс пра архіўную спадчыну Ратча. Г.Кісялёў як бы запрашае наступных даследчыкаў зазірнуць у скрыню з дакументамі, якія захоўваюцца ў Санкт-Пецярбургскай бібліятэцы.

Літаратурныя пачынанні Г.Кісялёва выліліся ў першую кнігу з паэтычнай назвай "Сейбіты вечнага" (Мн., 1963). Аднак на тытуле падаюцца вельмі празаічныя звесткі: "Артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года". Мусіць такім чынам выдавец падкрэсліў, што кніга ўяўляе сабой збор артыкулаў, апублікаваных у перыядычным друку. Трэба адразу адзначыць, што гэта не звычайныя артыкулы, а па свайму жанру яны часткова больш падобныя на навелы, а ў многіх выпадках на мастацкія гісторыка-дакументальныя нарысы пра ўдзельнікаў паўстання 1863 года на Беларусі і ў Літве.

Даследчык вельмі лаканічна, але амаль што вычарпальна абагульняе тэарэтычныя погляды К.Каліноўскага. Аўтар пісаў: "Тут усё дадумана да канца. Мэта: ліквідаваць памешчыцкае землеўладанне. Сродак: сялянская рэвалюцыя. Абавязковая ўмова: арганізацыя земляробаў... Ён гаварыў: дайце мне арганізацыю земляробаў, і я перавярну свет". Г.Кісялёў выразна акрэслівае патрабаванні беларускага змагара: далоў шляхту, зямлю -- сялянам (з памешчыцкім землеўладаннем пакончыць будзе вельмі цяжка), арганізацыя земляробаў, падтрымка і ўдзел у паўстанні польскага і расійскага сялянства. Самавызначэнне і выпучэнне з Расійскай імперыі і самастойнасць як дзяржаў Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Аднак К.Каліноўскі не падзяляў погляды шляхецкіх рэвалюцыянераў аб прызнанні граніц Польшчы 1772 года. Безумоўна, разглядаючы ў кнізе тэарэтычныя пытанні сялянскай рэвалюцыі, распрацаваныя Каліноўскім, аўтар міжволі, як гэта было прынята ў той час, павінен быў суадносіць усё з марксісцка-ленінскай метадалогіяй. Занадта часта Г.Кісялёў прыцягвае ідэі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, замест таго каб паказаць арыгінальнасць думак К.Каліноўскага. Але так было прынята.

Г.Кісялёў адзначыў, што К.Каліноўскі быў адным з заснавальнікаў беларускай дэмакратычнай публіцыстыкі. Вольнае беларускае слова праз газету "Мужыцкая праўда" даходзіла да беларускага і літоўскага селяніна, і гэта выданне давала магчымасць данесці да яго свядомасці, што трэба рабіць, каб быць шчаслівым. Яно свядома ўспрымалася сялянамі таму, што газета гаварыла з імі проста і зразумела.

К.Каліноўскі і яго сябры па рэдакцыі газеты, каб больш наблізіцца да сялян, знайсці шлях да іх душы, прапаведавалі уніяцтва -- рэлігію бацькоў беларускага селяніна ў Заходняй Беларусі. Яна панавала на гэтых землях у XVIII -- пачатку XIX стагоддзяў. Тут можна выказаць і такую думку, што Каліноўскі такім чынам хацеў адысці ад праваслаўнай Масквы і рыма-каталіцкай Варшавы. Некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што сам беларускі змагар застаўся рыма-католікам.

Даследчык лічыць, што практычная дзейнасць К.Каліноўскага ў Гродзенскай губерні па арганізацыі паўстання давала яму магчымасць "выпрабавання палітычных поглядаў, метадаў агітацыйнай работы сярод сялян для пастаноўкі сацыяльных доследаў". Гэта быў новы ракурс успрыняцца беларускага змагара за "мужыцкую праўду" як тэарэтыка сялянскага паўстання, сялянскай дэмакратыі.

**Марат БАТВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ТОЙ ЛЮД ЖЫВЕ, ШТО СВАЕ ПЕСНІ МАЕ

## ЛІТВА — РОДНАЯ ЗЯМЕЛЬКА



Францішак Багушэвіч, разважаючы ў сваёй прадмове да "Дудкі Беларускай" пра абсягі Беларусі, рытарычна пытаўся: "Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь?" І тут жа адказваў: "Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Мінск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчак і вёсак..."

Як бачым, паводле Багушэвічавых назіранняў, яго радзіма -- Свіраны разам з усёй Віленшчынай арганічна ўваходзілі ў абсягі Беларусі.

Свіраны, Віленшчына... Іх Багушэвіч часта па даўнейшай звычцы называў яшчэ і Літвою. У ягоных шматлікіх допісах, розных нататках сустракаем самыя розныя азначэнні, эпітэты да гэтага назову. Згадаем некаторыя: "у нашым літоўскім грамадстве", "на беднай Літве", "сельская Літва", "адвечнымі літоўскімі пушчамі", называе Францішак Багушэвіч жупранскія лясы. Згадвае таксама так званы літоўскі сыр, які пачалі вырабляць у Гарадзеі. А вось эмацыянальны ўсплёск паэтавай душы пра Літву: "Няхай глядзіць і дзівуецца Літва", -- кажа Багушэвіч у допісе пра выставу жывёлы ў Вільні. З усіх згаданых азначэнняў засяродзімся на двух: "наша Літва", "наша літоўскае грамадства". Менавіта так казаў Багушэвіч. Выходзіць, Літва -- родная Багушэвічу зямелька?! Так, родная, але ў яе гістарычным значэнні. У той жа "Прадмове" да "Дудкі Беларускай" чытаем: "Літва пяцьсот дваццаць гадоў таму назад ужо была ад Балтыцкага мора ўздоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра ракі да Нёмана; ад Каменьца места аж да Вязьмы -- у сярэдзіне Вялікаросіі; ад Дынабурга і за Краманьчук, а ў сярэдзіне Літвы, як зярно ў гарэху, была наша зямліца -- Беларусь!" Такі гістарычны абсяг панящця Літвы. У Багушэвічаву пару пад Літвой пераважна разумелі найперш Віленшчыну, Міншчыну. Край жа, які далей сягаў за Вільню, гэта была ўжо Жмудзь. Францішак Багушэвіч ведаў пра Жмудзь, гартаў слоўнікі жмудзьскай мовы, цешыўся коньмі жмудзьскай пароды на віленскай выставе, у сваіх допісах карыстаўся гэтай назваю. Тэрміны Літва, літвін ён ніколі не блытаў. Літвінам сябе лічыў і Багушэвічаў сваяк Габрыэль Радзевіч. Францішак Багушэвіч пад тэрмінам Літва разумеў той край, дзе наша мова гучыць.

Свіраны вельмі блізка ад нашай мяжы з Летувою. З ашмянскага памежжа да іх рукою падаць. Але Беларусі яны, на жаль, не належаць.

Калі б Багушэвіч мог устаць з магілы -- ці пазнаў бы ён сваю радзіму? Пэўна, што пазнаў бы. Але не менш здзівіўся б, не зразу меў бы, чаму гэта яго Свіраны называюць цяпер Svironis, Рукойны -- Рукайняем. Не зразумеў бы таксама, чаму за Меднікамі легла мяжа, чаму яны аддзелены ад Ашмяншчыны. Ашмяншчына спрадвеку належала да Віленшчыны. Магчыма, ён меў бы і іншыя пытанні. Але згаданыя -- абавязкова. І што б мы ні тлумачылі -- ён ніколі не пагадзіўся б з нашымі тлумачэннямі.

У вельмі няпростае духоўнае жыццё патрапіла Віленшчына. Тутэйшы люд скрозь гаворыць па-беларуску. Дзяржаўная мова летувіская. А гэтай мовы Багушэвічавы землякі пакуль не ведаюць. Дзеці іхнія ходзяць у расійскія ці змешаныя расійска-польскія школы. Хіба гэта натуральна?



Рукойнская школа таксама змешаная. Тут працуе дружны калектыў настаўнікаў. Сярод іх ёсць заўзятыя краязнаўцы. Адна з іх Рэгіна Кузьміцкая. Апошнім часам імя Францішка Багушэвіча стала для яе больш блізкім. З ёю [illegible] вяду гаворку, каб у тутэйш[illegible] школах, што паблізу Свір[illegible]у, хоць на 9 (21) сакавіка нагадвалі сваім вучням, Багушэвічавым землякам, што на гэтай зямлі нарадзіўся вялікі беларускі пясняр, што ўсёй сваёй творчай і грамадскай дзейнасцю ён спрыяў лепшай долі і Вілен[illegible]ы, і Віленскага краю, усяго [illegible]рускага люду. З Віленшчыны, з наваколля Свіранаў ды Рукойнаў многія яго сюжэты, тэмы яго твораў, допісаў.

Меркаваў знайсці хоць якія памяткі пра Галаўнёў на рукойнскіх могілках. З Галаўнёў паходзіла паэтава матуля. Але дарэмна. Рукойнскія могілкі даўно знесены, зруйнаваны бульдозерам. На іх месцы гараж гаспадарчых машын. А тут жа былі пахаваны не толькі Галаўні, але Сыракомлевы бацькі, а таксама Павал Ксавэры граф Бжастоўскі, вядомы на Віленшчыне як заснавальнік так званай Даўлоўскай Рэспублікі, дзе задоўга да адмены паншчыны была ўведзена для сялянаў воля, асвета, суды, школы, свая канстытуцыя. Зруйнавалі помнік на магілцы і гэтага светлага чалавека. Праўда, яшчэ да рэвалюцыі... Дзіка пра гэта гаварыць. Але такая была пашана да магілаў продкаў у нашым недалёкім мінулым. Вось і парвана повязь між гісторыяй, пакаленнямі людзей, сваякамі. Так мы і не ведаем, дзе спачывае вечным сном тая, што пусціла ў свет найсумленнейшага чалавека эпохі, мінулага стагоддзя. Радзіму знайшлі, а магілу Той, што нарадзіла, не. Хіба ж гэта справядліва?

У Рукойнах ацалела і святыня, у якой хрысцілі Францішка Багушэвіча. То няблага было б, каб 9 (21) сакавіка ў гэтай святыні было набажэнства за паэтаву душу.

Францішак Багушэвіч, як асоба грамадска значная, належыць не толькі Беларусі, але і цэламу свету. Таму такое набажэнства ў Рукойнскім касцёле ў дзень яго народзін -- з'ява натуральная, боская.

...У 1988 годзе, падчас музейнай экспедыцыі ў Свіраны, на дворышчы свіранскага гаспадара Ярмаковіча мне патрапіў на вочы адмысловы, думаю, яшчэ казельскай працы ключ. Такімі ключамі, мабыць, калісь замыкалі замкі на свірнах. Мне падалося, што займець такі ключ -- гэта раўназначна, што мець вечнае права на Свіраны, быць іх гаспадаром, і я прывёз яго ў Мінск. З гонарам усім паказваю -- ключ ад Свіранаў!

Ключ ад Свіранаў у нас. Цяпер трэба толькі яшчэ жаданне, каб ніколі не зарастала сцежка з Беларусі да радзімы найсумленнейшага беларуса XIX стагоддзя Францішка Багушэвіча які сваім нараджэннем навекі прыпісаны да падвіленскіх Свіранаў.

Між іншым, Свіраны калісь пазначаліся на картах. Прыкладам, яны пазначаны на карце Ашмянскага павета канца XVI стагоддзя. Гэта з часоў Вялікага Княства Літоўскага, калі Свіраны былі не менш слынныя і вядомыя на Віленшчыне, чым суседнія Меднікі ды Рукойны.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** куточак Свіранаў; "ключ ад Свіранаў.

## ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"

**Паважаныя сябры!**

**Доўгі час мы рабілі ўсё магчымае, каб вы не гублялі лучнасці з Бацькаўшчынай і атрымлівалі весткі праз нашу газету. "Голас Радзімы" фактычна пакуль адзінае выданне, якое трапляе да беларусаў як далёкага, так і блізкага замежжа. Мы вельмі ўдзячны ўсім нашым чытачам, якія падтрымліваюць газету і застаюцца з намі.**

**На жаль, у сувязі з пагаршэннем эканамічнага становішча з кожным днём робіцца ўсё цяжэй знаходзіць сродкі на выданне газеты і яе экспедзіраванне. Больш таго, з пачатку гэтага года расходы на паштовыя адпраўленні за мяжу павялічыліся ў шэсць разоў. Дзе ўзяць такія вялікія сродкі!**

**Мы звяртаемся да ўсіх нашых чытачоў і прыхільнікаў "Голасу Радзімы" з просьбай падтрымаць газету, якую вы лічыце сваёй і якая вам патрэбна. Будзем удзячны за любыя ахвяраванні на газету, якія можна дасылаць у выглядзе чэкаў на адрас рэдакцыі або пераводзіць на рублёвы рахунак выдавецтва "Полымя" з паметкай:**

**"Для газеты "Голас Радзімы" (Р/р 363902 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Мінска, код 764).**

**Спіс ахвярадаўцаў будзе рэгулярна друкавацца ў газеце.**

**Спадзяемся на вашу дапамогу.**

**РЭДАКЦЫЯ ГАЗЕТЫ "ГОЛАС РАДЗІМЫ".**

*СЯБРОЎСКІ ШАРЖ*




**"У. ДУБОЎКА". Шарж Яна КАШКЕЛЯ.**
**Публікацыя Л. НАЛІВАЙКІ.**

## *СПОРТ*

ТЭНІС. У фінале міжнароднага турніру на прыз Крыс Эверт мінчанка Наталля Зверава ўступіла ў двух сетах амерыканцы Мэры-Джо Фернандэс і заняла другое месца.

БІЯТЛОН. Завяршыўся чэмпіянат свету сярод юніёраў. Спартсмены Беларусі ў Швейцарыі медалёў не заваявалі. У эстафетнай гонцы на 10 кіламетраў юнакі занялі 5-е месца, дзяўчаты -- 6-е.

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. Створаны арганізацыйны камітэт па правядзенню традыцыйных спаборніцтваў на прызы алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя. Па папярэдніх даных, на гэты турнір у Мінск з'едзецца рэкордная колькасць барцоў з блізкага і далёкага замежжа.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 493. Падпісана да друку 13. 3.1995 г.**